# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (270) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 30 КРАСАВІКА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

**Няхай жыве 1 Мая — дзень міжнароднай салідарнасці працоўных, дзень адзінства і братэрства рабочых усіх краін!**



Маёр Юрый Гагарын — першы касманаўт.



Юрый Гагарын з жонкай Валяй і дачкой Ленай.



Юрый Гагарын пасля прызямлення.

# ЮРЫЙ ГАГАРЫН РАСКАЗВАЕ...

Першы ў гісторыі касманаўт маёр Юрый Гагарын у гутарцы з карэспандэнтамі расказаў пра сябе і пра свой выдатны палёт у касмічную прастору 12 красавіка 1961 года.

Гагарын сказаў: Я хацеў стаць касманаўтам. Жаданне ляцець у космас — гэта было маё асабістае жаданне. Калі мне даверылі гэта, я пачаў рыхтавацца да палёту. І, як бачыце, маё жаданне споўнілася.

Расказваючы аб сваіх думках у час палёту, Юрый Гагарын заявіў: Усе мае думкі і пачуцці былі накіраваны на выкананне праграмы палёту. Я хацеў выканаць усе пункты задання і як мага лепш. Работы было многа. Увесь палёт — гэта работа.

Юрый Гагарын падкрэсліў, што ніякага пачуцця адзіноты ў космасе ён не перажываў. Я добра ведаў, сказаў ён, што сябры, увесь савецкі народ сочаць цяпер за маім касмічным палётам. Я быў упэўнены, што партыя і ўрад заўсёды гатовы дапамагчы мне, калі я апынуся ў складаным становішчы.

Дзелячыся ўражаннямі аб тым, як выглядаюць з вышыні дзённы і начны бок Зямлі, Сонца, Месяц, зоркі, Юрый Гагарын расказаў:

Дзённы бок Зямлі відаць вельмі добра, добра адрозніваюцца берагі кантынентаў, астравы, буйныя рэкі, вялікія вадаёмы, складкі мясцовасці. Калі ён праляцеў над савецкай тэрыторыяй, то выразна бачыў вялікія квадраты калгасных палёў. Можна было зразумець, дзе ворная зямля, а дзе луг.

Гагарын працягваў: Раней мне даводзілася падымацца на вышыню не больш чым 15 тысяч метраў. З карабля - спадарожніка відаць, вядома, горш, чым з самалёта, але ўсё - такі вельмі і вельмі добра.

У час палёту, сказаў Юрый Гагарын, мне давялося ўпершыню ўласнымі вачыма ўбачыць шарападобную форму Зямлі. Такой яна здаецца, калі глядзіш на гарызонт.

Трэба сказаць, працягваў ён, што карціна гарызонту вельмі своеасаблівая і вельмі прыгожая. Можна бачыць незвычайны па маляўнічасці пераход ад светлай паверхні Зямлі да зусім чорнага неба, на якім відаць зоркі. Пераход гэты вельмі тоненькі, нібы плёнка - паясок, якая акружае зямны шар. Яна светла-блакітнага колеру. І вось увесь гэты пераход ад блакітнага да чорнага адбываецца незвычайна плаўна і прыгожа. Нават цяжка перадаць гэта словамі. А калі я выходзіў з зямнога ценю, то гарызонт уяўляўся іншым. На ім была ярка-аранжавая палоска, якая затым пераходзіла зноў у блакітны колер і зноў у густа чорны.

Месяца я не бачыў, працягваў Юрый Гагарын. Сонца ў космасе свеціць у некалькі дзесяткаў разоў ярчэй, чым у нас на Зямлі. Зоркі відаць вельмі добра, яны яркія, выразныя. Уся карціна купала неба значна больш кантрасная, чым мы бачым яго з нашай Зямлі.

Першы савецкі касманаўт расказаў, што, калі з'явілася бязважкасць, ён адчуваў сябе цудоўна. Усё было лягчэй рабіць. Гэта зразумела, адзначыў Гагарын. Ногі, рукі нічога не важаць, прадметы плаваюць па кабіне. І сам я не сядзеў у крэсле, як да гэтага, а вісеў у паветры. У час стану бязважкасці я еў і піў, і ўсё адбывалася гэтак жа, як у нас на Зямлі.

Я і працаваў у гэтым жа стане, пісаў, запісаў свае назіранні. Почырк той жа самы, хоць рука і нічога не важыць. Толькі блакнот трэба трымаць, а то ён уплыве з-пад рук. Працаваў на сувязі па розных каналах, карыстаўся тэлеграфным ключом.

Як я пераканаўся, падкрэсліў Гагарын, на працаздольнасці бязважкасць ніяк не адбіваецца. Пераход ад бязважкасці да гравітацыі, да з'яўлення сілы прыцягнення, адбываецца плаўна. Рукі і но-

(Працяг на стар. 6)



Старт «Усхода».



М. С. Хрушчоў з Ю. Гагарыным.



Масква, 12 красавіка 1961 г.







### У ГУБЫ НЕ БЯРЭ

— Працаваць умееш?
— Умею.
— А да гарэлкі ты не ласы?
— Гарэлкі я і ў губы не бяру. Хіба калі сябры цілком уліюць і то тады, як зусім п'яны, бо цвярозы не дамся.

**Валя Паўлючук**
Слівова



— **Колькі?**
— **Год.**



— **Колькі?**
— **2 гады.**




**Прысуд: 3 гады.**

### НЯВЫГАДНА

— Якая гадзіна?
— Не ведаю.
— Чаму ж, гадзінніка ў вас няма?
— Ёсць.
— Дык чаму не носіце?
— Нявыгадна. Бачыце, гіры, махавік, шкляная накрыўка, ну і ўсё такое.

**Валодзя Тамашук**
Дубічы-Царкоўныя

### НЕ ВЕРЫШ, ПАГЛЯДЗІ

Да адной дзяўчыны прыехалі сваты. Калі госці паселі за стол, хлопец пытае ў дзяўчыны:
— Ці ты ўмееш пячы хлеб?
— Умею.
— Не веру табе.
— Калі не верыш, дык пабач, колькі ў мяне цеста за ногцямі.

**Ірэна Старасельнік**
Пасечнікі М.




### ВЫБАР

Маці дала старэйшаму сынку два яблыкі і сказала, каб даў адзін яблык выбраць браціку. Праз нейкі час бачыць, што меншы яблык есць меншы сынок.

— Даў табе выбраць, брацік, яблык! — пытае яна.

— Даў, але сказаў, што магу выбраць або меншы, або зусім нічога. Дык я выбраў меншы.

**Андрэй Сідарук**
Сакі

### НЕ КУПЛЯЕ

— Я хацеў бы з вашай Зосяй ажаніцца.
— А маеш ты нейкі маёнтак?
— Ды я ж яе не купляю, а хачу толькі жаніцца.

**Зіна Кірылюк**
Бельск

### У КРАКАВЕ

Прахожы чалавек пытае ў аднаго з экскурсантаў:
— Прабачце, адкуль гэтая экскурсія.
— З Альхоўкі, — адказвае той.
— А дзе тая Альхоўка.
— Каля Нараўкі.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

### НА КАЛЕНЯХ

— Як скончылася ўчарашняя сварка з жонкай?
— Прыйшла да мяне на каленях.
— І што?
— Кажа, вылазь з-пад ложка, не буду больш чапаць.

**Надзя Леўчук**
Ст рына

## СКУПЫ ТРАХІМ

Калісьці быў у нас Трахім,
Якога звалі ўсе скупым.
Ім кожны ў вёсцы пагарджаў
І дом яго здалёк мінаў.
Усё да дому ён валок
І замыкаў там на замок.
Нічога атрымаць не мог,
Хто на яго ступіў парог.
Смяяліся, што ён за грош
Пагоніць нават пасвіць в т.
А ўжо за залатовак пяць
Мог бы ў Варшаву шагаць.
Калі ён летам луг касіў,
У лужы сухары мачыў,
Хоць сонца пражыла, як жар
Яму на дзень хапіў сухар.
І кажуць, што праз сухары
Ён састарэўся без пары,
Хоць меў багацця поўны двор
Нябога з голаду памёр.
Тут хочам раду даць усім:
Не быць такім, як той Трахім.

**АНДРЭЙ САМАСЕЙ**




**— Мы папрасілі вас, доктар, бо ў папярэдняга быў няправільны падыход да звяроў.**

**Без слоў.**

### СПРЫТНЫЯ ДЗЕЦІ

— Мама, — кажа хлопчык, — давай будзем гуляць у ЗОО. Я буду мядзведзем, Ірка — малпай...
— А я чым буду? — пытае маці.
— А ты, мама, будзеш паняй і будзеш падаваць нам цукеркі.

**Уладзімір Красоўскі**
Пянькі.



**Ну, мама, сям'я ў цябе пабольшылася яшчэ на адно дзіцё.**

### РУТЫНА МАЕ ВЕРХ



## ВЯСЁЛАЕ МЯСТЭЧКА

Дзеці і моладзь захапляюцца, калі прыязджае вясёлае мястэчка. Плошча тады стаецца шумлівай. Рэпрадуктары дрыжаць ад музыкі, а аматараў моцных адчуванняў чакае мноства розных пацех. Седакоў запрашае карусель. Жадаючых адарвацца ад зямлі вабяць лодкі - гушкалкі. Тых, якія яшчэ ў жыцці не накруціліся, «чортава кола» закруціць. Хочаш пасмяяцца — глядзі ў крывое люстра. Гледзячы на вясёлае мястэчка, чытачы могуць сабе ўявіць міжнароднае становішча.

Вось карусель кружыцца. Генерал Франка кабылу асядлаў, шабляй памахвае ды марыць аб трыумфальным уездзе на міжнародную палітычную арэну. Але, блазан, зусім не заўважае, што кружыцца на адным месцы.

Наш знаёмы, Конрад Адэнаўэр, на лодцы - гушкалцы гайдаецца. Уніз падае крычыць: да Вялікабрытаніі, падымаецца ўверх, гарланіць: да Амерыканіі. Так паміж Амерыканіяй і Вялікабрытаніяй матляецца старэча, а побач на «чортавым каню» ў форме свастыкі неафашысты кружацца. Яны на пану Адэнаўэра паглядваюць ды крычаць:

— Хайль Конрад! Мы на гэтым млінку ўвесь свет перамелем, толькі дапамажы нам адсюль выбрацца на шырэйшыя воды.

На адкрытай сцэне іспанскі жанглер хваліцца сваім штукарствам. Паказвае публіцы пусты цыліндар ды кажа:

— Вось тут ляжаць ключы Гібралтара...

— Там жа нічога няма, — кажа нехта.

Жанглер паглядзеў у цыліндар і збянтэжыўшыся, хутчэй надзеў яго на галаў

— Сенсацыя! — закрычаў нехто. — На пустой галаве пусты капялюш. Іспанцы даўно аблізваюцца на кусок Гібралтара.

Жанглер не вытрымаўшы уцякае са сцэны, а прысутныя падаюцца да ціру. Тут амерыканскі дзядзька прыжмурыўшыся, цэліцца ў фарфоравую фігурку кітайца, які стаіць на фоне мапы Кітайскай Народнай Рэспублікі. Хлопнуў стрэл і... пр махнуў стралок. Кітаец цвёрда стаіць. Зрэшты нічога тут дзіўнага. Нават амерыканскія ракеты не пападаюць у цэль.

Каля крывых люстраў пазірае Чан-Кай-шы. Павернецца да левага люстра ды здзіўляецца, што ён такі высокі. Паглядзіць у правае і да немагчымасці шырокім выдаецца.

— Я цяпер, — кажа стары Чан, — не змяшчуся на Тайване. Настаў час папрасіць амерыканскага дзядзьку пашырыць мне жыллёвую плошчу.

Пралетарыі ўсіх краін прыглядаюцца да забаўляючыхся ды думаюць:

— Пагуляйце сабе, непатрэбныя панкі, перад сваёй канчынай.

*Дзядзька Лявонь*